**Цана 40 грашоў.**

# НАРОД

**АДНАДНЕЎКА**

Беларускага Сялянскага Саюзу.

Вільня. 14 чэрвіня 1927 г.

## Вялікая патрэба клясавай арганізацыі беларускага сялянства.

Заданьнем беларускага руху ёсьць адраджэньне (й вызваленьне) Беларускага Народу; дзеля гэтага сьвядомы Беларус жыве й працуе, гэта ёсьць ягонай найглыбшай і найвялікшай ідэяй. Адраджэньне нацыянальнае абыймае ўсебакі нацыянальнага жыцьця. Тутака маем асвабаджэньне душы й розуму Беларуса, дзякуючы чаму ў яго варочаецца пашана да свае беларускае прыроды, да сваіх беларускіх асаблівасьцеў; за гэтым і адначасна зь ім ідзе развой і тварэньне нацыянальнае культуры. Побач з гэтым маеісьці адраджэньне або вызваленьне соцыяльнае й гаспадарскае. За імі або адначасна зь імі настае адраджэньне політычнае, стварэньне свае гаспадарсьцьвенасьці. З гэтага відаць, што нацыянальнае адраджэньне ахапляе ўсё чыста жыцьцё Народу.

Каб адрадзіць усё гэтае жыцьцё, патрэбна вялікая й зложная арганізацыя, каторая творыцца й разьвіваецца па меры развою нацыянальнага руху. Агульне цяпер прызнаецца, што найлепшым ёсьць арганізаваньне паводле клясавага прынцыпу, бо тады элемэнты нацыянальныя пераплятаюцца з элемэнтамі соцыяльнымі і ствараюць моцнаю арганізацыю. Арганізаваныя клясы лучацца із сабой у ваднэ нацыянальнаю цэласьць.

*Ці сялянства есьць кляса?*

Што работнікі й буржуазыя прадстаўляюць дзьве асобныя клясы, аб гэтым ніхто не сумляваецца. Не сумляваюцца такжа ў Заходняй Эўропе, што сяляне, што земляробы, значыцца працоўны люд, што сам собскімі рукамі ўрабляе мацi-зямлю, складае асобнаю соцыяльнаю клясу. Але на „блізкім“ (нашым) і „далёкім“ (маскоўскім) Усходзе Эўропы аб клясавасьці сялянства шмат хто сумляваецца.

Дзеля таго, каб якаясь група людзеў была асобнай клясаю, трэба, каб яна мела сваю собскаю, розьнаю ад іншых групаў, псыхіку, свой асобны матар‘ял працы і свае асобныя інтарэсы. Вось-жа сялянства мае сваю асобнаю псыхіку, асобны матар‘ял працы і асобныя інтарэсы, бо сялянства прадае, што места купляе, і наадварот. Значыцца сялянства ё кляса; а калі яно кляса, дык і павінна мець сваю політычнаю клясаваю арганізацыю *).

Гэта ўжо даўно зразумелі народы Заходняе Эўропы і тамака блізу што ўсюды ёсьць сялянскія клясавыя саюзы або партыі.

## Беларускі Сялянскі Саюз.

З развоем беларускага адраджэнскага руху зразумелі таксама беларускія сяляне патрэбу свае клясавае арганізацыі. У 1922 г. беларускія студэнты ў Празе арганізавалі Беларускі Сялянскі Саюз. Захапіўшы сабою большасьць студэнцтва, пры гэтым найсьвядомшага, найактыўнейшага й найбалей прыгатаванага да нацыянальна-грамадзкае працы, Саюз гэты стаўся найвялікшай і найактыўнейшай арганізацыяй беларускай у Празе. 9/10 нацыянальнай беларускай работы ў Празе выпаўняў Саюз афіцыяльна або неафіцыяльна праз сваіх сяброў.

Ворганам Саюзу якісь час быў часапіс „Беларускі Студэнт“.

*) Дзеля тых паноў, што хацелі-б лучыць сялянства з сабою, з тае прычыны, што сяляне й паны маюць собскасьць (хоць сяляне маюць яе ня ўсе), трэба адзначыць, што собскасьць, праўда, адзьдзяляе сялян ад работнікаў, аднак не прыбліжае іх да паноў; земельная собскасьць сялянская навет нямінуча стварае няпрыязьнь паміж сялянамі й панамі, бо гэныя хочуць папрaвіць сваё жыцьцё коштам гэтых. З другога боку, працоўнасьць сялянства станоўка адзьдзяляе яго ад паноў. Собскасьць, асобны матар‘ял працы, асобная псыхіка, асобныя інтарэсы, вынікаючыя з розьніцы вырабу, дзеляць сялянства ад работнікаў і прынукаюць яго асобне арганізавацца, але працоўнасьць іх луча і будзе лучыць датуль, пакуль будуць над імі фактычне панаваць панове (над сялянамі) і буржуазыя (над работнікамі). Дзеля таго сяляне й работнікі часта будуць прымушаны блёкавацца із сабою проці сваіх непрыяцелеў.

Саюз устанавіў зносіны з сялянскімі арганізацыямі іншых народаў і прыймаў дзейнае ўчасьце ў міжнародных сялянскіх нарадах і конгрэсах (прыкладам на Славянскім Конгрэсе Сялянскім у Любляне 1924 г.).

Праца Беларускага Сялянскага Саюзу вельмі абмежавалася тым, што ягоны цэнтр быў на чужыні, адкуль і мусіла выходзіць уся ініцыятыва ў дзейнасьці. Праўда, з Бацькаўшчыны прыходзілі жывыя спагадныя водгукі на працу Саюзу, але дзеля розных прычынаў у краю за сялянскаю працу пакуль што ня браліся станаўкія выдатнейшыя адзінкі, на каторых можна было-б узлажыць калі не цэнтральнае кіраваньне акцыяй Саюзу ў Бацькаўшчыне, то прынамся патварыць зь іх адзьдзелы Саюзу. Ідэёлёгію Беларускага Сялянскага Саюзу праскія сябры пашыралі ў Заходняй Беларусі пры помачы вышменаванага часапісу і ліставой перапіскай. Але гэтага было надта мала. Дык яшчэ пісалі артыкулы (пад псэўдонімамі: Давідовіч, Горадзенскі, Д. Г.) на ідэёлёгічна беларуска-сялянскія тэмы ў адзіне прыступным тады Саюзу часапісе ў Вільні „Кгупіса“, хочучы гэткім спосабам пашырыць арганізацыю ў Бацькаўшчыне. Выдавец і рэдактар „Кгупісу“, што тады мела падназоў „Сялянская газэта“, быў сам да значнай меры пранікнуты беларускай сялянскай ідэёлёгіяй і ў сваю лістох да некаторых сяброў Саюзу выказаваў спадзевы, што хутка мае і ў краю зьявіцца арганізацыя Беларускага Сялянскага Саюзу. У лічбе будучых сяброў зьяўляліся імёны паслоў П. Мятлы й В. Рагулі а пасьлей і Ф. Ярэміча. Большасьць сяброў Саюзу ўПразе даЯрэміча адносіліся нэгатыўна, аМятлу й Рагулю блізу што ніхто ня знаў, прынамся Рагулю ніхто ня знаў як сьвядомага Беларуса.

*Ярэміч з Рагуляй компромітуюць Саюз.*

Але час ішоў, а штосьці чуткі аб пасольскай ініцыятыве сялянскай сьціхлі. І толькі як у 1925 г. ўтварылася Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада і потым паслове ейныя вылучыліся зь Беларускага Пасольскага Клюбу, задзейкалі ізноў аб сялянскай ініцыятыве паслоў Рагулі й Ярэміча. Але й пасьля гэтага справа з пасламі ішла, як мокрае гарыць (аказалася потым, што п. Ярэміча й Рагулю ўвесь час трэба было пераконаваць і заахвочаваць да сялянскай працы, ня гледзячы на тое, што яны жадных аргумэнтаў проці яе не выстаўлялі, а проста агіляліся, не хацелі рабіць). Увосень 1925 г. Ф. Ярэміч, едучы із Жэнэвы, заехаўся ў Прагу і меў тамака нараду ў справе арганізацыі Саюзу ў Бацькаўшчыне з Прэзыдыумам Беларускага Сялянскага Саюзу. Пабачыўшыся з Ф. Ярэмічам, сябры Саюзу пацьвярдзілі толькі сваё перакананьне аб нявдольнасьці Ярэміча быць арганізатарам Саюзу ў Бацькаўшчыне. Але прыняўшы пад увагу, што з Ф. Ярэмічам відавочна будуць людзі адпавяднейшыя да гэтае працы ды што борзда з-за граніцы маняцца вярнуцца ў Бацькаўшчыну сябры ўжо з выпрабленай сялянскай ідэёлёгіяй, не пярэчылі прыступленьню Ярэміча й Рагулі да сялянскай арганізацыі ў краі. На нарадзе было зазначана, што Беларускі Сялянскі Саюз існуе з 1922 г. і што новая сялянская акцыя ў краі будзе толькі пашырэньнем дзейнасьці дагэнуляшняга Саюзу.

За якісь час першыя знакі дзейнасьці сялянскай Ярэміча й Рагулі у краі перакаНалі Саюз, што яны навет на толькі ня здатны, колькі ад іх спадзяваліся. Аказалася, што ў іх нічагусенькі ня клеіцца: ані конфэрэнцыя, на каторай былі людзі або пазычаныя Хрысьцянскай Дэмократыяй або чыста прыпадковыя, ані тыднёвік „Сялянская Ніва“.

У другой палове ліпня 1926 вярнуўся ў Вільню з-за граніцы стары сябра Беларускага Сял. Саюзу і адзін зь яго закладчыкаў д-р Я. Станкевіч. і некалькі іншых сяброў. Тое, што яны тут пабачылі, было запраўды страшнае. Аказалася, што паслове Ярэміч і Рагуля ані думаюць працаваць для Саюзу і навет наагул для беларускай справы. Жыцьцё іхняе запраўды было падобнае да якогась мусульманскага раю: елі, шмат пілі і нічагусенькі не рабілі. Рагуля хоць разы два-тры прамаўляў на пасольскім вечу, а Ярэміч навет гэтулькі не рабіў; ён адно спадзяваўся, што „Грамаду“ зара ліквідуе польскі ўрад і тады ўсе сябры ейныя рынуцца ў Саюз. Аказалася, што на Конфэрэнцыі, навет пры дзівосным яе складзе (глянь вышэй), панове Рагуля й Ярэміч былі абраны ў Прэзыдыум Саюзу вылучнe дзеля таго, што былі пасламі. Адначасна канчальна выясьнілася, што яны пайшлі ў Сялянскі Саюз ня дзеля ягонае ідэёлёгіі, а дзеля таго, каб самым асабіста прайсьці ізноў у Сойм. Пакуль ня было „Грамады“, яны спадзяваліся прайсьці ў Сойм, карыстаючыся быццам асабістым да іх даверам выбаршчыкаў іхніх вокругаў, а пасьля ўзьніку „Грамады“ трэба было глядзець іншай дарогі да Сойму.

Ведама, што калі нічагусенькі не рабілі „кіраўнікі“, дык і ніхто іншы нічога не рабіў. Жыцьцё Саюзу ў Бацькаўшчыне абмежавалася тымі спагаднікамі, каторых выклікала дзейнасьць Саюзу з Прагі.

Пры такім палажэньню праца сяброў Саюзу, што прыехалі ў Вільню, была вельмі цяжкой. Але прыдзержуючыся выпрабенай ужо ў Саюзе тактыкі, што зь Беларусамі толькі тады можна парываць, калі выпрабаваны ўсе іншыя спосабы, каб паправіць шкоду,—сябры Саюзу прыступілі да ціхой працы, не выступаючы проці „павадырства“ Рагулі й Ярэміча ў краёвай арганізацыі Саюзу.

Але, як можна відзець з вышсказанага, праца гэтая не магла быць трывалаю. Гэта быў толькі лішні даказ шчырага жаданьня супольне працаваць навет зь Ярэмічам і Рагуляю. Прадстаўце сабе гэтых „кіраўнікоў“, каторыя ня ведалі як кіраваць, ня мелі жадных партыйных і на'т наагул грамадзкіх імкненьняў. У Рагулі прытым ад старога чарнасоценства асталося сьляпое русафільства. Паводле яго, калі масы Заходняе Беларусі імкнуцца на ўсход да Масквы, дык гэта добра і трэба сьцерагчыся ўсяго, што магло-б іх ад гэтага імкненьня адхінуць. Гэткае маскаляфільства шкаднейшае за ўсялякае іншае, бо маскаляфільства дзеля самае Масквы, а ня дзеля якіх нацыянальных ці соцыяльных, запраўдных ці выабражаных палёгкаў. Трэба адцеміць, што ўся тройка („саюзьнікі“ паслове і іхні сэкрэтар), ня верачы ані ў свае ані ў народныя сілы, ня імкнуліся (і ня імкнуцца) да незалежнасьці Беларусі, хоць пры некаторых выступленьнях і ў „Сял. Ніве“ рэклямавалі свае незалежніцтва, бо яно давала ім некаторы эфэкт, не вымагаючы (як яны думалі) жаднай працы.

Але бязьдзейнасьць гэтых людзёў была лепшай чымся іхняя „дзейнасьць“. Настала яна ў канцы восені. У страсе, што Сойм будзе распушчаны і яны ня будуць абраны нанова, гэтыя людзі зьвярнулі асаблівую ўвагу на тое, на што й цагэнуль толькі зварачалі ўвагу, г. зн. на свае будучыя мандаты.

Займацца працай культурнай ня трэба, бо гэтым адхінаюцца сілы ад палітычнай агітацыі, каторая адна толькі можа даць мандаты. У „Сял. Ніве“ трэба праўдай і няпраўдай рэклямаваць „кіраўнікоў“. Мала гэтага, каб сялянскія масы пашлі да п. Ярэміча й К-о, яны наважылі ачарніць як толькі мага грамадаўскіх і прыхільных да „Грамады“ дзеячоў. „Мы павінны зьбіць галавы, дык масы пойдуць да нас“ сталася любою фразаю Ярэміча. Гэтае „зьбіваньне галоў“ пачалося ў пачатку сьнежня 1926 г. ад выдумляньня й выліваньня на іх памыеў, хоць самі „кіраўнікі“ ведалі, што ў іхняй („кіраўнікоў“) лаянцы няма праўды.

*Ачышчэньне Б. С. Саюзу ад паноў Ярэмічаў.*

Нельга не згадзіцца, што Беларускі Народ канечне павінен мець сваіх прадстаўнікоў у Сойме і можна было-б яшчэ зразумець, навет даравацъ, калі-б якія сьцілюбыя адзінкі імкнуліся сябе правесьці ў Сойм, але з умоваю, што яны былі-б людзьмі адпаведнымі. Але за людзёў неадпаведных, навет шкодных, ды яшчэ балей за нягодныя спосабы партыйна-асабістай барацьбы, каторымі бэсьціліся людзі вельмі заслужоныя у беларускай справе, не маглі браць на сябе адказнасьці ідэйныя сябры Беларускага Сялянскага Саюзу. Ф. Ярэміч, В. Рагуля і А. Більдзюкевіч, не зварачаючы ўвагі на Саюз, не здаючы справаздачы із свае „працы“, ня склікалі такжа зьездаў, конфэрэнцыеў, нарадаў і зборак Саюзу *), наагул усяго таго, дзе можна было-б іх крытыкаваць і аддаліць з прэзыдыуму. Дык, ня могучы дарогай перавыбараў прэзыдыуму спыніць шкодную дзейнасьць вышменаваных трох асобаў, амаль усе сябры Саюзы, у тэй лічбе й др Я. Станкевіч, пастанавілі ня лічыць паслоў Ф. Ярэміча, В. Рагулю і іхняга сэкрэтара А. Більдзюкевіча сябрамі Беларускага Сялянскага Саюзу і не супрацоўнічаць зь імі.

Адкінуўшы гэтак арганізацыю фальшыва-партыйнаю й фальшыва-сялянскаю п. Ярэміча, краёвыя сябры Беларускага Сялянскага Саюзу ўзяліся за праўдзівае арганізаваньне ў краю Беларускага Сялянскага Саюзу. Праца на жыцьцё, праца культурная й грамадзкая не давалі магчымасьці пасьвяціць шмат часу на працу партыйнаю. Ня гледзячы на гэта, прыгатавальная работа ў Вільні і на провінцыі да чэрвіня 1927 г. была зроблена і быў утвораны ў Вільні Часовы Камітэт Б. С. Саюзу, каторы павядзе далей працу. Склад Часовага Камітэту гэткі: Ю. Мурашка (зь Вішнева Вялейскага пав.), д-р Я. Станкевіч і М. Шавель. Адрэс Камітэту: Вільня, Крывое Кола 21, 3 (Krzywe Koło 21, m. 3).

Адным з пасьпешных заданьнеў Часовага Камітэту будзе склікаць з усяе Заходняе Беларусі конфэрэнцыю Саюзу. **Горадзенскі.**

*) Раз на паўгада былі толькі „зьезды“ прэзыдыуму, на каторыя ня ўсе сябры прэзыдыуму прыяжджалі. Але навет пастановы гэтых „зьездаў“ нідзе не друкаваліся і сябром Саюзу асталіся няведамымі.

## Што дзеецца ў Ярэміча й Рагулі.

„Саюз“ п. Ярэміча можа быць найлепшым прыкладам, як могуць людзі дэморалізавацца ў пагоне за асабістымі карысьцьмі ў справах нацыянальна-грамадзкіх. Лаянкі, інсынуацыі, шкадаваньні, што не арыштаваны і іншыя грамадаўскія дзеячы, або іх чарненьне сьвядомай маной аб іхніх зносінах з дэфэнзываю так і сыпяцца з воргану „саюзу“ Ярэмічавага „Сялянскае Нівы“. Далей у дэморалізацыі ісьці немагчыма. „Сялянская Ніва“ сваімі нягоднымі лаянкамі выперадзіла ўжо Паўлюкевічава „Беларускае Слова“. Дык няма дзіва, што, ня гледзячы на сваю паказную опозыцыйнасьць да польскага ўраду, п. Ярэмічы й Рагулі надта ўжо ў блізкіх адносінах з людзьмі, што служаць польскай справе на шкоду справе беларускай; прыкл.: Умястоўскага, Косьцевіча (б. рэдактар Валэйшавага „Грамадзкага Голасу“, а цяпер супрацаўнік Умястоўскага „Беларускага Дня“), Мамоньку запрасілі на сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці, зь „Белар. Словам“ маюць супольнага супрацаўніка, Сьветазара, а зь „Бел. Днём“ Краўцовага Макара.

Як заўсёды, з гэтай дэморалізацыяй зусім добра ўжываецца маскаляфілства ці мо яно знаходзе адпаведны грунт у падобнай дэморалізацыі. Гэтак прыкладам „Сялян. Ніва“ піша аб „Беларуска-Украінскім народзе“ (перадавіца ў № 28 з 1927 г.). Ясна, што тутака пакуль што гутарка аб „Беларуска-Украінскім народзе“ (а не народах) дзеля таго, што цяперака неадпаведны мамэнт пашырыць гэтае „адзіноства“ й на народ маскоўскі. Напасьледак панове Рагулі й Ярэмічы робяць проста дэмонстрацыю проці беларускага руху, проці ўсіх традыцыеў ягоных яны пры выбарах у меставаю раду ў Вільні робяць блёк з нашымі спрадвечнымі непрыяцельмі—маскоўскімі чарнасоценцамі манархістымі (складаюцца яны ў Вільні як із запраўдных Маскалёў так і зь беларускіх рэнэгатаў) і ставяць потым ультыматум нашым спрадвечным суграмадзянам-Ліцьвіном, дзеля таго тыя змушаны былі адмовіцца ад блёку.

**М. Хв.**

## Якія маюць быць адносіны між партыямі Беларускага Народу.

З гледзішча агульна-нацыянальнага—а толькі пры такім гледзішчу можна дапяць усестароньняга адраджэньня Беларускага Народу—асобныя палітычныя партыі і наагул арганізацыі існуюць дзеля дабра ўсяго Народу. Арганізацыі асобных клясавых групаў не павінны мець наўвеце пакрыўджаньне аднымі клясамі другіх, а толькі забясьпечаньне клясавае справядлівасьці і правядзеньне нацыянальнае ідэі ў кожнай групе.

Калі-б кожная беларуская партыя гэтак выпаўняла свае заданьні, дык паміж партыямі не павінна было-б быць ходаньня, а толькі падзел працы. Але не заўсёды партыі разумеюць сваё заданьне, а разумеючы, не заўсёды яго добра выпаўняюць, маюць у сваёй працы большыя або меншыя заганы. У гэным (першым) прыпадку партыя мае быць заменена накшай, такой, што сваё заданьне разумела-б; у гэтым (другім) прыпадку пры помачы ходаньня трэба ісьці да паправы дзейнасьці такое партыі, бо аднаго зварочаваньня ўвагі партыі на ейныя заганы бяссумлеву не ставала-б. Ведама, што такое ходаньне ня можа быць дэморалізацыйным, мае быць ходаньнем пераконаваньня й аргумэнтацыі і ня можа мець наўвеце зьнішчаньне групаў або асобаў, бо ўсе Беларусы—браты *). **А. Зянюк.**

*) Дзеля таго й Ярэмічавай групцы не жадаем зла і цешыліся-б, калі-б яны паразумнелі й паправіліся.

## Як мае працаваць Беларускі Сялянскі Саюз.

Ідэя сялянскасьці, землябобскасьці ня ёсьць толькі справай палітычнай, але яшчэ ў большай меры справай гаспадарскай, культурнай і моральнай. Калі-б хто меў наўвеце адны палітычныя заданьні, дык толькі паказаў-бы гэтым, што ён ня знае ідэі сялянскасьці. Адна палітычная сялянскасьць—гэта дом, пастаўлены на пяску; пры вялікім подзьмуху ветру гэткая сялянскасьць магла-б быць зьмецена і заменена чым іншым. Палітычныя ідэалы сялянства, ягонае палітычнае вызваленьне, здабыцьцё запраўднай магчымасьці карыстацца на роўні зь іншымі клясамі ўсімі правамі свабоднага грамадзяніна, адно немагчыма і мае ісьці побач з вызваленьнем у жыцьцю гаспадарскім і культурным.

Побач зь вялікімі ідэямі у ўсіх менаваных галінах мае ісьці штадзенная чорная праца-ходаньне дзеля паляпшэньня свайго жыцьця. Вялікія ідэалы неабходныя, але мець толькі адных іх значыла-б лятуцець аб „нябескіх мігдалах“, ня еўшы звычайнага хлеба. Ведама, гэтак жыці нельга. У штадзеннай працы-ходаньні сялянскія арганізацыі маюць чаго павучыцца ў старшых як іхнія арганізацыеў работніцкіх, наўперад у профэсыянальных работніцкіх саюзаў. Дыкжэ сялянскія саюзы ці партыі тым ці іншым спосабам павінны складацца з гэтакіх сялянскіх профэсыянальных саюзаў (ня важна як яны будуць звацца), у каторых будзе дзейнасьці гаспадарская й культурная ды яшчэ дзейнасьці палітычнай. Мусіць быць вялікая ўвага зьвернена і на працу моральнаю, занядбаньне каторай прыносе вялікаю шкоду работнікам і можа прывесьці работніцкія масы да загубы. Вось з гэтых чатырох частак: палітычнай, гаспадарскай, культурна-асьветнай і моральнай мае складацца праца-ходаньне Беларускага Сялянскага Саюзу і кожны ягоны часапіс ці газэта павінны мець гэтыя адзьдзелы.

**Д-р Я. Станкевіч.**

## Як зможам абараніцца.

Немагчыма прадставіць сабе штось цяжшае як нашае беларускае жыцьцё пад Польшчаю. Проці нас ськівавана ўся польская палітыка, „крэсавая“ адміністрацыя ходаецца з намі, проці нас польскі Сойм. Але гэта яшчэ ня ўсё; проці нас усе польскія партыі, усе польскія арганізацыі, наагул усё польскае грамадзянства, з выняткам адзінак. Гэта ня проці якогась аднаго беларускага кірунку, але проці ўсіх, і ня толькі проці працы палітычнае, але й культурна-асьветнае ды гаспадарскае,—проці ўсялякае бяз вынятку беларускае працы як арганізацыеў так і асобных Беларусаў. І нічым мы ня ўб'емся ў ласку да Палякоў, бо ўсё благое робіцца нам ня дзеля таго, што мы якія благоцьці, бо ім ведама, што запраўды ёсьць наадварот, а дзеля таго, што мы, Беларусы, жывем. Дык бяссумлеву як-бы мы не паніжаліся перад Палякамі, як-бы не стараліся ім угадзіць, нічагусенькі не паможа; наадварот пагорша справу, бо тады Палякі прынялі-б гэта за нашаю слабасьць або дурнату і яшчэ балей за нас узяліся-б.

Адзіны ёсьць спосаб прымусіць адмовіцца Палякоў ад іхніх благіх мэтаў—гэта быць такімі адпорнымі ў сваёй працы-ходаньні, каб яны загналі ахвоту ходацца з намі, каб пабачылі, што ім гэта не аплачуецца і што, калі-б не зьмянілі сваіх адносінаў да нас, дык самі прагралі-б. Як-бы адраджэньне якога народу не хацелі запыніць, як-бы ён ня быў паняволены, але калі ён не захоча паддацца, дык астанецца жывым і пераможа сваіх праціўнікаў. Гляньце на Ірцаў (Ірляндзцаў)! Гэта маленкі, шмат меншы за нас, народ, а ходаўся ён і перамог найвялікшае й найдужшае ў сьвеце гаспадарства—Англію, перамог цывілізаваных, культурных, хітрых і разумных Англійцаў. У прыраўнаньню да Ірцаў нашае ходаньне шмат лягчэйшае. Дык мы шмат лягчэй і барджэй зможам перамагчы й здабыць сабе шчасьлівую будучыню. Але дзеля гэтага трэба дзьвюх рэчаў—вытрываласьці й актыўнасьці. Як-бы нам ня было цяжка, мы мусім вытрываць. Але каб трываласьць была вялікшая і каб сіла нашая ня меншала, але расла, трываласьць мае быць злучана з актыўнасьцяй, зь дзейнасьцяй. Мы павінны працаваць дзеля адраджэньня беларускага народу ўсяляк і ўсюды. Нядаўна я бачыў сшыток поэзіі аднаго яшчэ нязнанага дагэтуль нашага поэты. Гэны поэта ўсьвядоміўся й напісаў сшыток харошых вершаў, седзячы ў турме. Значыцца і ў турме людзі патрапляюць працаваць дзеля адраджэньня свайго Народу. Дык і пагатове могуць працаваць тыя, што ня ў турме, а вонках. Калі зь зялезнай вытрываласьцяй і з найвялікшай актыўнасьцяй будзем ходацца, дык напэўна пераможам, перамога нашая будзе толькі справаю часу. Дзеля гэткае барацьбы павінны быць злучаны ўсе беларускія сілы, падзел на партыі й арганізацыі нам ня мае перашкаджаць. Ведама, што пры гэткай барацьбе нямаш часу на асабістаю грызьню. Хто гэтага не разумее, той шкодзе справе і памагае нашым не́прыяцелем.

**Давідовіч.**

## Маскоўскі паход на Беларусь.

Як арганізацыя працуючая пад Польшчаю, мы галоўна й наўперад будзем займацца палажэньням Беларускага Народу ў Заходняй Беларусі, тым балей, што Беларусам тутака надзвычайна цяжка жывецца. Але ня можам не адгукацца і на жыцьцё Беларусаў пад Радамі і ў сваёй працы даваць ім хоць крышку месца. Асьвятляць жыцьцё ў Радавай Беларусі будзем об'ектыўна, адзначаючы як добрыя так і благія ягоныя праявы.

**Рэдакцыя.**

Каб быць бесстароньнімі, павінны мы наперадзе адзначыць, што ў Радавай Беларусі Беларусам шмат ляпей жывецца, як у Беларусі, што пад Польшчаю. Але шмат ляпей ня знача яшчэ, што жывецца тамака добра. Не, шмат ляпей гэта знача, што толькі меней блага як унас у Зах. Беларусі. Жылося-б хіба тамака нішто, каб Радавая Беларусь была асобным Беларускім Гаспадарствам. Але хоць Радавая Беларусь лічыцца Беларускай Рэспублікай, аднак залежа ад Масквы і ўсё тамака пад загадам маскоўскім. Маскоўскія бальшавікі, праўда, разумнейшыя за Палякоў і дзеля свае карысьці зрабілі Беларусам свабаднейшыя путы.

Агульне кажучы, у Радавай Беларусі заўсёды было шмат несправядлівасьці ад Маскалёў. Але з пачаткам сёлетняга году пачаўся арганізаваны маскоўскі паход проці Беларусаў. Ен адразу так балю-

ча адчуўся ў Беларусі, што ўжо сёлета на зьезьдзе комуністычнай партыі Беларусі ніхто з камуністаў-Беларусаў, апрача аднаго Саўліча, не асьмеліўся гаманіць пабеларуску, каб ня быць абвіненым у шовінізьме. Шовіністычны маскоўскі паход проці Беларускага Народу сыстэматычне праводзіцца далей. Нядаўна сэкрэтар комуністычнай партыі Беларусі, Крыніцкі, быў заменены Кнорынам. Сэкрэтар ком. партыі гэта-ж запраўдны прадстаўнік комуністычнае (ведама маскоўскае) політыкі ў Беларусі. Назначэньне на гэты ўрад Кнорына, каторы ведамы здаўна як непрыяцель Беларусаў, гэта-ж вызаў, кінены ўсяму Беларускаму Народу. З маскоўскім паходам, здаецца, стаіць у сувязі і замена старшыні народных камісароў Беларусі, Адамовіча, якімсь Галадзедам.

З гэтага відзім, што панская ласка маскоўская на наравістым каню езьдзе. Дык маем сваю долю каваць незалежна ад гэнае ласкі. А незалежнасьць гэтаю будзем мецць тады, калі ўсе Беларусы як душэўна (ідэолёгія, кірункі) так і фізычна (партыі, таварыствы) будуць самастойна арганізаваны. Ідучы сваёй асобнай дарогаю, мы загартуем нашыя сілы й адпорнасьць, дастанем размах у барацьбе і будзем заўсёды гатовыя на бітву з кожным нашым непрыяцелям.

**Максім Прынскі.**

## За Сэмінарыю.

Паміж шмат якіх бедаў, каторыя перажывае Праваслаўная Царква ў Заходняй Беларусі, мо' найбалючэйшай ёсьць справа Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні.

Большасьць праваслаўнага духавенства ў нас, прывыкшы быць у залежнасьці ад сьвецкай маскоўскай улады і ўпадабаўшы сабе такое палажэньне, захацела і ў новых, проціллежных абставінах у Польшчы стварыць сабе штось падобнае. Мы відзелі, як гэтае духавенства, забыўшыся свае павіннасьці да Царквы й Народу, навыпярадкі пусьцілася выслужаваць сабе ласку ў новых паноў. Мы ведаем цяперака, што залежнасьць нашае духавенства сабе здабыла лёгка, залежнасьць ня меншаю за ранейшаю, але ласкі сабе... не здабыла.

Жэртваю выслужаваньня ў сьвецкай улады сталася паміж іншым Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя ў Вільні. Школа, што гадавала праваслаўных пастыроў, была старшымі пастырамі занядбана. Навет балей, гэныя пастыры самі памаглі яе да значнай меры скасаваць. Бо толькі з прычыны падлыжніцтва вышшага духавенства сьвецкай уладзе, ад Сэмінарыі ў вялікай меры быў адняты яе духоўны характар і ўведзена, як выкладовая, польская мова. Цяпер Сэмінарыя ці праваслаўная гімназыя выглядае блізу што зусім сьвецкай школаю; загадуе ёй сьвецкі дырэктар, залежны беспасярэдне ад куратара, як кожны дырэктар урадовай гімназыі, дый іншыя парадкі ў ёй як у сьвецкіх сярэдніх школах. Духоўная ўлада мае толькі нагляд у васобе рэктара над рэлігійным і моральным узгадаваньнем сэмінарыстых. Ведама, аднаго нагляду надта мала; нельга сумлявацца, што ў Сэмінарыі ўсё жыцьцё ейных гадунцоў павінна ўкладацца пры беспасярэднім учасьці ў ім самога духавенства. Сэмінарыя такая, як яна цяпер ёсьць, добрых пастыроў Царкве даць ня можа. Зразумела гэта праваслаўнае беларускае грамадзянства і ўвесь народ. Праваслаўныя вернікі адвярнуліся ад Сэмінарыі, перасталі яе лічыць сваёй, відзячы ў ёй толькі польскаю гімназыю; лічба паступаючых у Сэмінарыю таксама нязвычайна зьменшылася.

Ад усяго гэтага можна было спадзявацца вельмі благога канца. Але на шчасьце само праваслаўнае духавенства схамянулася і наважыла паправіць шкоду. Нядаўна Сьвяцейшы Сынод Праваслаўнай Аўтокефальнай Царквы ў Польшчы вынес пастанову, каторая імкнецца вярнуць Сэмінарыі хоць часткава яе ранейшы духоўны выгляд. Паводле пастановы Сыноду Праваслаўная Сэмінарыя ў Вільні была-б зэформована паводле Праваслаўнай Сэмінарыі ў Крэмянцы. Згодна з гэтым яна з польскай гімназыі сталася-б, хоць і недасканальнай, але ўсё-ж тыкі запраўднай праваслаўнай сэмінарыяй; палова прадметаў у ёй выкладалася-б пабеларуску і палова папольску, а ня так як цяперака ўсё папольску.

З пастановы Сьвяцейшага Сыноду мы відзім, што праваслаўнае духавенства ў нас яшчэ мае ў сабе гэтулькі сілы, каб адрадзіцца й стаць карысным Царкве й народу. Гэтаю пастанову Беларусы павінны горача прывітаць і падзьдзержыць. Яна карысна як самой Царкве, так і беларускаму народу, як і наагул гэтыя дзьве карысьці ў нас злучаны з сабою.

Будзем спадзявацца, што й Міністэрства Вераў і Асьветы зразумее канечнаю патрэбу гэтае рэформы і згодзіцца на яе. Дагэтуляшняя полёнізацыя Сэмінарыі не дапне свае мэты, бо праваслаўных наагул, а сэмінарыстых і пагатове, спалячыць немагчыма. Калі за Расеі Маскалі не маглі абмаскаліць каталіцкіх сэмінарыстых, дык цяпер—пры жывым беларускім руху—праваслаўных сэмінарыстых таксама нельга спалячыць. Імкненьне сполёнізаваць Сэмінарыю адпіхае ад яе народ ды ў ім, як і ў самых гадунцоў Сэмінарыі, выклікае няпрыязьнь да гаспадарства, каторае гэтак робе.

**Праваслаўны.**

## Памажэма найбалей пакрыўджаным!

Чужая маскоўская ўлада рупілася аб панаваньню над намі, а не аб нашай асьвеце. За Маскалёў заданьнем маскоўскіх школаў у нас было маскаленьне. Пры гэтым толькі частка дзяцей праходзіла гэныя школы, а шмат у іх зусім ня было. Але й значная часьць тых, што вучыліся тады ў пачатковых школах, потым пісаць і чытаць блізу што забывалася, бо вучэньне вялося ў чужой маскоўскай мове й духу (беларускія школы былі забаронены) і дзеля таго было адарвана ад жыцьця.

З адыходам Заходняе Беларусі пад Польшчу палажэньне тутака ня толькі не палепшала, але ў некаторых мясцох нат пагоршала. Полёнізацыйны шал апанаваў у нас усю школьнаю адміністрацыю. Ня гледзячы на ўсе языковыя й неязыковыя законы, беларускіх школаў фактычне не дазваляюць адчыняць. А школьная прынука ў польскія школы далёка не выпаўняе таго заданьня, каторае лёгка споўніла-б звычайная „ня прыгонная“ школа беларуская. З гэтае прычыны, ня гледзячы на школьнаю прынуку і цяжкія кары за непасыланьне дзяцей у польскія школы, да старых няпісьменных прыбывае мноства няпісьменных новых. Дык няма дзіва, што ў нас няпісьменных (няўмеючых чытаць і пі-

сацъ) ёсьцека мноства; у некаторых мясцовасьцех няпісьменных палова а нат і балей. Асабліва шкодна няпісьменнасьць адбіваецца на моладзі: дзе няма беларускае культурна-асьветнае работы, моладзь на вачох дзічэе. Праўда, гэтае дзічэньне не абыймае ўсю чыста моладзь. А што датыча старшых няпісьменных, дык у нас ёсьць няпісьменныя бацькі, што далі сваім дзяцём навет вышшаю асьвету; у беларускай гушчы нямала ё сталых людзёў запраўды інтэлігентных, ня гледзячы на сваю няпісьменнасьць. Але ўсё-ж такі кожнаму няпісьменнаму дзьверы да асьветы й развою замкнены. Каб адамкнуць іх, трэба здабыць тый ключ, каторым ёсьць уменьне чытаць і пісаць. Няпісьменныя, гэтыя найбалей пакрыўджаныя нашыя браты, маюць права на гэта.

З другога боку, у нас ёсьцека значне інтэлігенцыі й поўінтэлігенцыі, у кожнай вёсцы знайдзецца свой інтэлігент, а часта й не адзін толькі. Што-ж можа быць прыраднейшага, каб гэтая інтэлігенцыя й поўінтэлігенцыя навучыла сваіх няпісьменных братоў, сёстраў, а часта й бацькоў, пабеларуску чытаць, пісаць і лічыць.

Гэта можна зрабіць пры помачы курсаў для няпісьменных. Курсамі такімі павінны мы ўсеіць усю Заходняю Беларусь. Павінны гэткія курсы паўстаць у кожнай вёсцы, засьценку й мястэчку; павінны яны паўстаць і ў мястох, бо й тутака ё няпісьменныя. Ёсьць крыху няпісьменных Беларусаў і ў Вільні.

Як арганізаваць гэт'кія курсы? Думаю, што гэтак. Усюды мясцовая інтэлігенцыя мае зыйсьціся і, параіўшыся паміж сабою, узяцца за сьпісаньне няпісьменных. Трэ'было-б запісаць: імя, прозьвішча, век, занятак, ці зусім няпісьменны, ці мо' ўмее чытаць, але ня ўмее пісаць, ці ў жаднай мове ня ўмее пісаць і чытаць, ці мо' толькі пабеларуску. З гэт'кага сьпісаньня будзе відаць, на якія групы падзяліць усіх няпісьменных дадзенае мясцовасьці і хто зь якой групай мае займацца. Трэба так сама знайсьці памяшчэньне пад курсы. Да восені трэба ўсё прыгатаваць, каб увосень пачаць заняткі. Хіба што ўсюды заняткі на курсах будуць увечары. Ведама, што справа курсаў для няпісьменных не павінна ані на часінку адхінуць нашае ўвагі ад дамаганьня беларускіх школаў.

Каб справа курсаў для няпісьменных пайшла добра, павінны за яе ўзяцца ўсе беларускія культурна-асьветныя й навуковыя арганізацыі; усе газэты й часапісы беларускія павінны гэтаю справу лічыць сваёю і сыстэматычне памагаць ёй. Беларускія культурна-асьветныя арганізацыі павінны даць помач маральнаю й арганізацыйнаю. Калі-б гэтыя арганізацыі змаглі яшчэ даць хоць невялічкаю памогу матар'яльнаю, каторая пайшла-б на скромнаю плату вучачым (вучыцялём) на курсах, дык зусім было-б добра.

Апрача таго трэба помач пэдагогічная. Разрэзныя абэцэды, кніжкі да чытаньня й да гэт. пад. ёсцека, але нямаш яшчэ мэтодыкаў, як вучыць чытаць і пісаць. Можна быць чалавекам вельмі інтэлігентным, але, калі ня ведаеш як узяцца за дзела, дык будзе цяжка вучачаму й вучаным. А тымчасам з кароткага мэтодычнага выкладу кожны балей-меней інтэлігентны чалавек лёгка зразумее як пачынаць вучыць, а на практыцы й добра навытырыцца. Аб гэтых мэтодыках павінны загадзя парупіцца нашыя выдавецтвы.

Культурныя беларускія арганізацыі павінны так сама загадзя паруціцца аб дастаньню агульнага дазваленьня ўлады на адчыненьне курсаў для няпісьменных, каб кожная вёска ня мусіла даставаць яго асобна.

Апрача беларускіх культурных арганізацыеў, моральнаю, арганізацыйнаю и матар'яльнаю помач курсам для няпісьменных павінны даць існуючыя ў Беларусі Цэрквы (Касьцёлы). Гэтым яны паказалі-б, што справа асьветы беларускага народу ім дорага, і пэўне-ж паднялі свой аўторытэт у вачох народу й інтэлігенцыі.

**Д-р Я. Станкевіч.**

# Усеславянскі зьезд геаграфаў і этнографаў „у Вільні“.

Сёлета 7 чэрвіня меў быць у Вільні Усеславянскі Зьезд геаграфаў і этнографаў. Запраўды ён у гэным часе быў гэтулькі ў Вільні, колькі і ў іншых мястох. Зьезд арганізавалі Палякі і запрасілі на яго прадстаўнікоў іншых славянскіх народаў. Але ня ўсе славянскія народы былі на зьезд папрошаны; ня было на зьезьдзе Славенцаў. Ня былі запрошаны таксама Беларусы і, здаецца, Украінцы. З гэтага відаць, што арганізатары зьезду былі зацікаўлены, каб на зьезьдзе былі прадстаўнікі гаспадарсьцьвеных (дзяржаўных) народаў славянскіх. Народамі негаспадарсьцьвенымі арганізатары зьезду ня цікавіліся і, здаецца, іхняе быцьцё на зьезьдзе было навет не пажаданым (як Беларусаў і Украінцаў). Дык ясна, што да арганізацыі зьезду прычыніліся наўперад увагі палітычныя. Палітычнымі-ж прычынамі выясьняецца й тое, што зьезд ня быў і ня меў быць у Вільні, як было абвешчана, але ў многіх мястох у Польшчы і на'т вонках яе (Варшава, Катовіце, Пазнань, Гданск, Трокі, Вільня, Львоў, Кракоў). Дзяржаць Славянаў некалькі дзён у Вільні—гэта значыла-б дапусьціць, каб у іхнім перакананьню польшчына Вільні шмат зьменшылася, а польшчына краю разьвеялася, як дым. Тым часам, прывозячы ў розныя месты гасьцёў на кароценькі час, арганізатары зьезду, відаць, спадзяваліся, што пры ўмелым іх даглядзе з боку польскага, можна будзе вытварыць у іх панцыце аб велічыні й багацьці Польшчы і, што найважнейшае, аб польскім усюды насяленьню.

Зьезд арганізаваны быў з Кракава, там уложана праграма яго і разасланы запросіны. Вільні даручана толькі было наладзіць прыймо гасьцёў. Учасьнікі зьезду прыехалі ў Вільню 7 чэрвіня ў 10 гадзінаў нараніцы. Зараз па 10 гадзіне зроблена было ім урачыстае прыймо ў залі Віленскага ўнівэрсытэту. Пасьля гэтага гасьцёў вадзілі паказаваць Вільню. Лекцыі на зьезьдзе чыталіся толькі ўвечары ад 6-ёх да 8-ёх або 9-ёх гадз. (як у якой сэкцыі). У той-жа дзень увечары ўвесь зьезд паехаў зь Вільні ў Львоў.

Як сказана вышэй, Беларусаў не папрасілі на зьезд, але маглі Беларусы самі зьвярнуцца да арганізатароў яго з жаданьнем быць учасьнікамі (сябрамі) зьезду, як гэта зрабілі Украінцы. Дзеля таго што зьезд быў усеславянскім, дык беларускім геаграфам і этнографам адмовіць не маглі-б. Праўда, тым учасьнікам зьезду, што хацелі разьяжджаць па ўсёй яго тэрыторыі, трэба было заплаціць па 270 залатовак, што для безработнай або палубезработнай беларускай інтэлігенцыі з Зах. Беларусі было рэчай блізу

што немагчымай. Але й гэтаю перашкоду можна было абмінуць, абмежыўшыся толькі віленскай часьцяй зьезду. На жаль, Беларусы ані аднаго ані другога не зрабілі і прадстаўніком на зьезьдзе ад Беларусаў быў адзіны д-р Я. Станкевіч, каторы, як сябра зьезду, прачытаў на ім у Вільні лекцыю на тэму: „Беларускія ўплывы ў рэлігійным жыцьцю мусульман і Жыдоў“. Д-р Я. Ст. сам зьвярнуўся з зычэньнем быць учасьнікам зьезду і прыймаў учасьце толькі ў віленскай часьці яго.

Вялікая шкада, што так мала Беларусаў прыняло ўчасьце ў Усеславянскім Зьезьдзе географаў і этнографаў, у той час як іншых Славянаў прыехала значне, а Чэхаў было ажно 120 чалавекаў. Прапушчаючы магчымасьць прыймаць учасьце зь іншымі народамі ў навуковым жыцьцю, мы гэтым самым як-бы выкасоўваем сябе з памяці гэных народаў і гэтым сабе вельмі шкодзім.

Апрача ўчасьце на самым зьезьдзе, можна было шмат зрабіць інформуючы ўчасьнікаў зьезду аб беларускім руху; дзеля гэтага ня трэба было быць і сябрам зьезду. Як нам расказавалі, ня гледзячы на сваё кароткае быцьцё ў Вільні, загранічныя ўчасьнікі зьезду стараліся пазнаёміцца зь беларускаю справаю і самі шукалі Беларусаў, але тыя, як змовіўшыся, нідзе не паказаваліся.

Прычына гэт'кага дзіўнога ўзьдзержаваньня Беларусаў ад учасьця ў міжнародных зьездах і ад прапаганды беларускае справы паміж чужнікамі ляжыць у цяжкой хваробе, на якую вось ужо паўгада цяжка хварэе большасьць беларускіх кіраўнікоў у Вільні. Хваробай гэтай ёсьць партыйна-асабістая альбо й толькі асабістая грызьня. Забіўшыся ў сваю скаралушчу, панове павадыры грызуцца паміж сабою і за гэтай партыйнай скаралушчай ня бачаць шыршага сьвету беларускага й іншага. Але калі павадыры ня могуць працаваць з прычыны грызьні, дык тым самым паралізуецца ініцыятыва да шыршай працы ў іхніх прыхільнікаў. І толькі той, хто стаіць воддаль ад сваркі, можа праяўляць гэтаю ініцыятыву.

Але пара ўжо ахамянуцца, пакінем паноў А. Більдзюкевічаў, Ярэмічаў і інш. адных цешыцца із сваіх „харошых“ лаянак, а самі займемся чыстай, сьветлай і шырокай беларускай працаю. Патрэбна арганізацыя, што заўсёды мела-б наўвеце прапаганду беларускае справы між чужнікамі; патрэбна арганізацыя, што заўсёды рупілася-б аб учасьці Беларусаў на міжнародных навуковых зьездах і да г. п. Гэтай апошняй арганізацыяй магло-б быць Беларускае Навуковае Т-ва, каторае, на жаль, цяпер супакайнюсенька сьпіць.

**Б. Грудок.**

# Чаму няма апекі?

Кожны год у маі й чэрвіні месяцы ў Вільню да Калівары прыходзе й прыяжджае з усяго краю мноства Беларусаў-каталікоў. У гэтыя два месяцы ў Вільні поўна нашага сялянства. Сёлета апрача таго хіба зьявіцца ў Вільні шмат беларускіх сялян-каталікоў на каранаваньне Астрабрамскага Абраза Маці Боскай.

Побач з пабожнымі мэтамі нашыя пілігрымі прыходзяць адначасна ў Вільню як-бы на выбег (экскурсыю), каб пабачыць шырокі сьвет, якім ёсьць ім сталіца краю Вільня. Вярнуўшыся дамоў, аб бачаных „дзівах“ і „дзівосах“ у Вільні апавядаюць цэлыя тыдні.

Як-жа сустракае Вільня сваіх вясковых гасьцёў? Мусім прызнаць, што спалячаная Вільня сустракае іх вельмі нягодна. Яны прыходзяць быццам у чужы, няпрыязны ім край; дазнаюць нямала зьнявагаў і крыўдаў ад грэбуючага імі дурнога мяшчанства. Нашых ветлых (уважлівых, далікатных) сялян і сялянак віленскае мяшчанства й урадніцтва няправільна часта ліча чуць ня дзікунамі і абходзіцца зь імі запраўды падзікунску. А колькі церпяць яны зьнявагі за сваю родную беларускую мову! Да зьнявагаў вулічных, зьнявагаў так сказаць паміж іншым, тут яшчэ прыходзяць зьнявагі абдуманыя з мэтаю палячэньня ў розных „дабрадзейных“ начуліўчах. *)

А тымчасам усё гэта дзеецца ў Вільні, дзе ёсьць ужо значная колькасьць беларускай сьвядомай інтэлігенцыі, у цэнтральнай сялібе беларускіх партыеў і таварыстваў.

Толькі прыраўнаваўшы менаваныя факты пераканаесься, на колькі нашая інтэлігенцыя ня ўмее працаваць, на колькі яна ў сваёй працы не эўропейская, а азыяцкая. Нічагусенькі падобнага ў Зах. Эўропе нельга было-б знайсьці.

Ведама, што ня ўся беларуская інтэлігенцыя м. Вільні можа апякавацца сваімі вясковымі гасьцьмі, бо яна занята працаю. Але часьць яе і пры гэтым такая вялікая, каб яе стала на гэт'кі дагляд, знайдзецца, абы толькі была ахвота да працы. Аб гэтай справе павінна была даўно паруліцца Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя, бо гэта ея беспасярэдняя павіннасьць. Калі нашая хадэкі падобнымі справамі не займаюцца, дык яны не апраўдаюць свайго існаваньня, як беларуская каталіцкая партыя. Адкладаць гэтага к налецьцю ня трэба, бо яшчэ сёлета можна шмат зрабіць. Трэба начуліўча, дзе маглі-б падарожныя палюдзку выспацца і выпіць наранінцы і ў вечары гарбаты. Далей трэба паказаць дарогу, разьясьніць, параіць, памагчы,—адным словам аднесьціся так, як адносяцца сьвядомыя беларускія сяляне да сваё інтэлігенцыі, калі яна загляне да іх на сяло.

Як мала дзеля гэтага трэба працы, а якая вялікая была-б зроблена работа!

**Беларус-каталік.**

*) Ня можа быць апраўданьня, што сьвядомыя й сьветлыя Беларусы зь вёскі знайдуць дарогу да сваіх знаёмых Беларусаў у Вільні або да беларускіх таварыстваў, бо яшчэ ня ўсе сьвядомыя, а сьветлых яшчэ меней. А што датыча таварыстваў, дык не заўсёды яны маюць дзе памясьціць гасьця.

# Вучэмася лепей прадаваць наш тавар!

Сяляне нашыя сваё земляробскія вырабы звычайна прадаюць таньней, як яны варты. Дзеецца гэта як з тае прычыны, што гаспадарсьцьвеныя законы і загады ўраду не бароняць як належа сялянскіх інтарэсаў, так і дзеля таго, што сялянства нашае ня мае свайго земляробскага прамыслу, дзе перараблялa-б сваю сырызну на дарожшыя тавары, а прадае сырызну гандляром, прытым па таннай цане, даючы ім шмат зарабляць. Галоўная прычына ўсяго гэтага тая, што нашае сялянства не арганізавана клясава.

Скажу тутака некалькі слоў аб **продажы** сялянамі сваіх вырабаў. Сяляне блізу што заўсёды прадаюць сваё дабро мясцовым гандляром, найбалей, калі вязуць на продаж у сваё паветавае места, дзе

купляюць тыя самыя гандляры. Гэтак прадаючы, нашыя гаспадары й гаспадыні вельмі шмат траццаць. Прыкладам каля 10 чэрвіня ў Крэўскай, Альшанскай, Куцеўскай і іншых валасьцех Ашмянскага павету сяляне прадавалі гандляром сьвежае нясоленае масла па 3 зал. 50 гр. за кілё, а ў той час у Вільні на рынку за такое масла плацілі 5 зал. за кілё; гэткім парадкам гаспадары на кілё масла трацілі 1 зал. 50 гр.

Каб не дапусьціць да такога ашуканства, трэба, каб гаспадары з аднае альбо некалькі вёсак зьбіралі ў сябе яйкі, масла і іншае і даручалі аднаму везьці ў Вільню ці Варшаву прадаваць. Трэба, каб беларускія газэты друкавалі акуратна віленскія цэны на земляробскія тавары. Наладзіўшы гэтак продаж, можна будзе знайсьці і сваіх беларускіх агентаў, каторыя пры патрэбе маглі-б і тэлеграфаваць цэны.

Ведама, што гэтакая продаж будзе толькі часткавай паправай шкоднага палажэньня; зусім яно паправілася-б тады, калі-б нашыя гаспадары прадавалі свае тавары па цэнах эўропейскага рынку. Але паляпшаць па крысе—значыць ісьці да паправы цэласьці. Цэласьць зусім паправіцца тады, як Беларускі Сялянскі Саюз ахопе і ўсестаронньне зарганізуе ўсё беларускае сялянства.

**Гаспадар.**

# Навіны.

**Т-ва беларускіх пісьменьнікаў і мастакоў.** 29 мая арганізавана ў Вільні „Т-ва маладых беларускіх пісьменьнікаў і мастакоў Зах. Беларусі „Веснаход“. Прыняты й пададзены на зацьверджаньне ўладаю статут Т-ва. Адначасна абраны часовы прэзыдыум Т-ва ў гэткім складзе: паэтка Натальля Арсенева—старшыня, мастак М. Васілеўскі—пісар, пісьменьнік У. Грыневіч—„вольны“ (?) сябра. Запрошаны для працы ў прэзыдыуме на правох ганаровага сябры поэта А. Бартуль.

Дзіўна, чаму гэта Т-ва мае абыймаць толькі **маладых** пісьменьнікаў. Няго-ж у нас так шмат пісьменьнікаў, што для маладых трэба адно Т-ва, для сталых іншае, а для старых яшчэ іншае, дый наагул, ці рацыянальна гэта арганізавацца пісьменьнікам паводле веку. Зацемім, што ў Радавай Беларусі „Маладняк“ (ляпей было-б назваць „Маладнік“) названы так дзеля таго, што хоча лучыць „маладых душой“ паглядамі, а на век тамака ўвагі не зварачаюць.

Далей нам здаецца, што ляпей было-б арганізавацць пісьменьнікаў і публіцыстых, наагул беларускіх рабачаеў пяра разам. Гэткая арганізацыя была-б мацнейшая, трывальшая й актыўнейшая. Самы пісьменьнікі ад гэтага толькі выгралі-б; асабліва ў пісьменьніцкай арганізацыі патрэбныя літаратурныя крытыкі.

Ад рабачаеў, каторых матар'ялам працы ёсьць роднае слова, вымагалася-б, каб знайшлі адпаведнейшае слова на назоў свайго Т-ва, а не такое тваранае, якім ёсьць „Веснаход“.

Адрэс Т-ва: Вільня, Віленская, 12—6.

**Удаюць.** Ворган Ф. Ярэміча, В. Рагулі й А. Більдзюкевіча (яны складаюць прэзыдыум Ярэмічавага „Саюзу“) „Сялянская Ніва“ у № 45 сёлета піша: „гр. Янка Станкевіч, ужо з благаславенства А. Луцкевіча маніцца таксама залажыць нейкую быццам сялянскую партыю“.

Закладаць новай партыі Я. Станкевіч не патрабуе, бо Беларускі Сялянскі Саюз, каторы ён разам зь іншымі залажыў, існуе без перарыву ўжо пяць год. Але пісаньне аб „благаславенстве“ Луцкевічавым вельмі нягодна характарызуе вышменаваных паноў. Як ведама, яны ўвесь час пісалі, што А. Луцкевіч стварыў „Грамаду“, кіраваў ёй і цяпер быццам рэдагуе „грамадаўскаю“ газэту, хочучы, пэўне-ж, гэтым прывесьці арышт А. Луцкевіча польскай уладаю. Цяпер яны ўдаюць, што з „благаславенства“ Луцкевічавага працуе Беларускі Сялянскі Саюз, хочучы, відаць, і нам таго самога, што й Луцкевічу. На гэта ім адкажам словамі поэты:

Ня толькі „хамскія“ натуры
На карках вынесьлі сваіх
І сьвіст даношчыкаў панурых,
Паверце, не запудзіць іх.
Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзеў ня варта мазаліць,
Не пагасіць вам праўды яснай,
Жыў Беларус і будзе жыць.

Ува ўсіх справах, датычачых Беларускага Сялянскага Саюзу, зварочвайцеся да яго

## Часовага Камітэту

(*адрэс: Вільня, Крывое Кола* **№** *21 кв. 3*).

Сялянам з Смаргонскай, Вішнеўскай (Вялейскага пав.) і Жодзіскай вол. раім зварочавацца **да сябры Часовага Камітэту, Юстына Мурашкі ў м. Вішневе** Вялейскага пав.

## Вышлі й прадаюцца кнігі:

*П. С.:* **Ніва й Краскі.** Стар. 104.
Цана 1 зал. 20 гр., зь перасылкай 1 зал. 35 гр.

*Iakub Kołas i Taras Huszcza:* **Prapau czaławiek, Niomnau dar, Taustoje palena.** Стар. 48, цана 70 гр., зь перасылкай 80 гр.

*Maciej Buraczok:* **Dudka Biełaruskaja.**
Цана 60 гр. зь перасылкой 70 гр.

Можна купляць і выпісаваць з усіх беларускіх кнігарнеў і з Часовага Камітэту Бел. Сял. Саюзу (Вільня, Крывое Кола № 21 кв. 3).

Выдавец: Я. КЕЛМУЦЬ. Рэдакцыя: Вільня, Крывое Кола 21.
Друкарня С. БЭККЭРА, Вільня, Субач 2.